ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 33 (2383) 18 жніўня 1994 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 200 рублёў.

## БЫЎ, ЁСЦЬ, БУДУ



Мінула дзесяць гадоў, як пайшоў ад нас выдатны пісьменнік і чалавек Уладзімір Караткевіч, які сваёй творчасцю ў многім прадвызначыў, можна сказаць, падрыхтаваў сённяшняе наша Адраджэнне. Мы не дадалі яму сваёй увагі і любові пры жыцці, пра свае творы ён не заўсёды чуў толькі словы захаплення. Аднак час справядлівы суддзя, і цяпер Уладзімір Караткевіч займае адно з пачэсных месцаў у беларускай літаратуры.

Раней помнік пісьменніку быў адкрыты на яго радзіме ў Оршы, сёлета ў ліпені з'явіўся помнік У. Караткевічу ў Віцебску (на здымку).

З сённяшняга нумара мы пачынаем друкаваць успаміны пра Уладзіміра Караткевіча вядомага гісторыка і літаратуразнаўца Генадзя КІСЯЛЁВА (на 7-й стар.).

НА ЗДЫМКУ: кветкі да помніка У. Караткевічу ўскладае Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі М. ГРЫБ.

**Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь**
**сп. Аляксандру ЛУКАШЭНКУ**
**ад 1-га з'езду беларусаў Балтыі**

**Шаноўны спадар Прэзідэнт!**

**Мы вітаем Вашае абраньне на вышэйшую дзяржаўную пасаду ў Рэспубліцы Беларусь праз свабоднае волевыяўленьне беларускага народу.**

**Мы выказваем спадзеў на разуменьне з Вашага боку праблемаў захаваньня этнічнай саматоеснасьці і культурнага адраджэньня беларусаў у краінах Балтыі.**

**На гэтае насельніцтва павінна распаўсюджваць свой клопат Рэспубліка Беларусь як гарант беларускай нацыі згодна з міжнародным правам і заканадаўствам адпаведных краін. На жаль, папярэдняе кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь не заўсёды дастаткова дапамагала беларускай дыяспары, выкарыстоўваючы беларускі этнас у рэгіёне адно толькі з палітычнымі мэтамі.**

**Мы спадзяемся, што сьвятыя ідэалы свабоды і незалежнасьці нашае Бацькаўшчыны заўсёды будуць мэтаю Вашае дзейнасьці на пасадзе Прэзідэнта. Мы выступаем за няўхільнае шанаваньне суверэнітэту бліжэйшых суседзяў Беларусі -- краінаў Балтыі і ўмацаваньне міждзяржаўнага супрацоўніцтва ва ўсіх галінах палітыкі, эканомікі і культуры.**

**Зычым Вам плёну ў працы.**

**ДЭЛЕГАТЫ ЗЬЕЗДУ.**

Вільня, 6-7 жніўня 1994 г.

## НА З'ЕЗДЗЕ БЕЛАРУСАЎ БАЛТЫІ

# НАС АБ'ЯДНАЛІ МЕЖЫ

Рэгіянальныя сустрэчы згуртаванняў беларусаў у далёкім замежжы — ў Паўночнай Амерыцы, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, іншых краінах сталі ўжо традыцыйнымі. І вось 5--6 жніўня адбылася першая спроба наладзіць такі ж сход суайчыннікаў, што жывуць у так званым блізкім замежжы -- у краінах Балтыі. Некалькі дзесяткаў прадстаўнікоў беларускіх суполак Літвы, Латвіі, Эстоніі наведалі Вільню, каб усталяваць асабістыя кантакты, выпрацаваць агульную тактыку далейшай дзейнасці і шляхі вырашэння сваіх праблем. На Першы з'езд беларусаў краін Балтыі была запрошана дэлегацыя ад грамадскага аб'яднання ЗБС "Бацькаўшчына", якую ўзначальвала загадчык арганізацыйна-культурнага аддзела Ніна Петухова, а таксама прадстаўнікі міністэрстваў культуры і адукацыі Беларусі. Актыўны ўдзел у працы з'езда браў саветнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Літве спадар Уладзімір Шчасны. Адкрыў сустрэчу і амаль што ўсе два дні старшынстваваў на пасяджэннях Хведар Нюнька -- старшыня Беларускага культурнага таварыства ў Вільні. Былі зачытаны прывітальныя лісты ад намесніка прэм'ер-міністра Беларусі сп. Віктара Ганчара і прэзідэнта ЗБС "Бацькаўшчына" Радзіма Гарэцкага.

(Заканчэнне на 4-й стар.).

**Не забудзьцеся падпісацца на штотыднёвік "Голас Радзімы" на апошні квартал 1994 года. Падпіска будзе доўжыцца толькі да 15 верасня.**

**Падпіска каштуе: на 1 месяц — 1 400 рублёў, на 3 месяцы — 4 200 рублёў.**

## ПОГЛЯД НА СІТУАЦЫЮ ДЗЕЛАВОГА ЧАЛАВЕКА

# У ПАЛІТЫЧНАЙ БАРАЦЬБЕ ПЕРАМОЖЦАЎ НЕ БУДЗЕ

**Наша газета ўжо не раз расказвала сваім чытачам пра малады беларускі бізнес. Палітычныя перамены непазбежна ўплываюць на эканоміку. Чаго чакаюць прадпрымальнікі ад новага ўрада, з якімі праблемамі сутыкнецца новая адміністрацыя -- аб гэтым разважае віцэ-прэзідэнт Саюза прадпрымальнікаў Рэспублікі Беларусь Сяргей ПІРОЖНІК.**

-- *Сяргей Аляксеевіч, змены, што апошнім часам адбыліся ў рэспубліцы, непазбежна закрануць і прадпрымальнікаў. Як ваш саюз збіраецца фарміраваць свае адносіны з новым урадам?*

-- Мы працавалі, працуем і будзем працаваць з тым урадам, які ёсць, які мы маем, бо наша асноўная задача -- не палітычная дзейнасць і барацьба за пасады і крэслы, а аднаўленне эканомікі, стварэнне працоўных месцаў, паляпшэнне сістэмы фінансавання і тавараабароту, рост дабрабыту народа. Гэта -- адвечныя задачы, іх трэба вырашаць, незалежна ад таго, які ўрад прыйшоў да ўлады. Мы проста будзем працягваць рабіць сваю справу.

-- *Ходзяць чуткі, што перамены ў палітычным жыцці Беларусі выклічуць адпаведна змены і ў кіраўніцтве Саюза прадпрымальнікаў...*

-- Нам ужо давялося пачуць у свой адрас прапановы ў поўным складзе пайсці ў адстаўку па прыкладу былога ўрада, з якім мы супрацоўнічалі. Але мне падаецца, тыя, хто гэтага дамагаецца, не разумеюць, што ў адрозненне ад урадавых чыноўнікаў, якія, падаючы ў адстаўку, губляюць пасады, дачы, службовыя аўтамабілі і ўладу, кіраўніцтва саюза, зрабіўшы тое ж самае, толькі выйграе, набыўшы вольны час, магчымасці больш займацца ўласным бізнесам, а значыць, і зарабляць больш грошай. Так, мы супрацоўнічалі з Кебічам, і з былым урадам, але мы такім чынам вырашалі праблемы, што стаялі перад намі. Зараз мы шукаем шляхі да дыялогу з новай адміністрацыяй, і прапановы, якія мы сфармулявалі, не носяць палітычнага характару.Гэта тыя ж прапановы, што мы клалі на стол Кебічу, бо яны хвалявалі нас яшчэ год ці два таму назад.

-- *Некалькі год сёння для нашай краіны велізарны тэрмін. Вы хочаце сказаць, што за гэты час вам не ўдалося дамовіцца з урадам і вырашыць найбольш набалелыя пытанні?*

-- Так, час ідзе, а праблемы застаюцца. Хаця часу гэтага, бадай што, ужо і няма...

-- *А пра што ідзе гаворка?*

-- Сёння трэба тэрмінова мяняць падатковую сістэму, пераглядаць заканадаўства, вырашаць пытанні занятасці насельніцтва і многае іншае, што мы сфармулявалі ў сваіх прапановах па вываду эканомікі Рэспублікі Беларусь з крызісу. Але перш за ўсё, мы павінны самі сабе адказаць на найважнейшыя пытанні: Хто мы? Што мы будуем? Куды ідзем? Якое грамадства ў рэшце рэшт хочам стварыць?

(Заканчэнне на 3-й стар.).

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*З ПРЭЗІДЭНЦКАЙ КАНЦЫЛЯРЫІ*

## СКАРАЧЭННЕ ШТАТАЎ

Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, з 500 чалавек, якія раней працавалі ў Доме ўрада, штаты давядзецца скараціць як мінімум на 200 чалавек, паколькі цяпер апарат прэзідэнта разам з Кабінетам міністраў будзе мець патрэбу ў рабоце толькі 300 супрацоўнікаў. Прычым, "перайсці" з кабінета ў кабінет удасца не многім, асноўная маса людзей вымушана будзе ўжо цяпер шукаць сабе новую работу.

-- Мы спрабуем як-небудзь вырашыць пытанне з працаўладкаваннем, аднак тут ёсць вялікія складанасці, -- паведаміў карэспандэнту Белінфарма кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта Леанід Сініцын. -- Пакуль жа мы павінны дзейнічаць у адпаведнасці з законам, які прадугледжвае варыянт скасавання ўстановы, і ў адпаведнасці з ім звальняць усіх супрацоўнікаў. Толькі частка з іх зноў атрымаюць работу ў Кабінеце міністраў і прэзідэнцкай адміністрацыі.

## ЗНЯТЫ З ПАСАДЫ ЗА ХАЛАТНАСЦЬ

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Аляксандра Лукашэнкі міністр лясной гаспадаркі Георгій Маркоўскі вызвалены ад займаемай пасады за "грубыя парушэнні працоўных абавязкаў", якія выявіліся ў халатных адносінах да арганізацыі і кантролю за знешнеэканамічнай дзейнасцю міністэрства, што "прывяло да нанясення матэрыяльнага ўрону інтарэсам рэспублікі". Гэтым жа Указам Кабінету Міністраў даручана ва ўстаноўленым парадку вырашыць пытанне аб вызваленні ад пасад кіраўнікоў абласных вытворча-лесагаспадарчых аб'яднанняў. Пракуратуры Рэспублікі Беларусь даручана вырашыць пытанне аб узбуджэнні крымінальнай справы па матэрыялах знешнеэканамічнай дзейнасці Міністэрства лясной гаспадаркі, якія прадстаўлены Кантрольнай палатай.

## ВЕДАЦЬ БЕЛАРУСКУЮ МОВУ

На конкурснай аснове і шляхам тэсціравання будзе набірацца штат тэхнічнага абслугоўвання ў адміністрацыю прэзідэнта. Як стала вядома карэспандэнту Белінфарма, толькі невялікі працэнт машыністак, стэнаграфістак, перакладчыкаў, якія раней працавалі ў апараце Савета Міністраў, застанецца працаваць пры "новай уладзе". Галоўным патрабаваннем, апрача прафесійных якасцей, для многіх будзе веданне беларускай мовы. Асабліва гэта датычыцца "каралеў прыёмных", большасць з якіх дагэтуль не лічылі неабходным ведаць яе.

*ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА*

## МІНІСТР ПРЫНЯЎ ПАПСКАГА НУНЦЫЯ

Міністр замежных спраў рэспублікі Уладзімір Сянько прыняў пасла Ватыкана ў Беларусі Агасціна Маркета з выпадку яго назначэння на пасаду папскага нунцыя са знаходжаннем у Мінску. Як паведамляе прэс-служба МЗС, Агасціна Маркета ўручыў кіраўніку знешнепалітычнага ведамства копіі вярыцельных грамат. У ходзе праведзенай гутаркі былі абмеркаваны становішча каталіцкай царквы, сітуацыя з іншымі канфесіямі ў рэспубліцы.

*КАНФЕРЭНЦЫЯ ЛІГІ*

## ПРЫВІД ПАГРОЗЫ

У Кіеве прайшла канферэнцыя Лігі палітычных партый міжмор'я, у якой прынялі ўдзел прадстаўнікі 19 партый з Украіны, Малдовы, Балгарыі, Румыніі, Польшчы, Беларусі, Літвы, Латвіі і Эстоніі.

Як паведамілі карэспандэнту РІДа ў прэс-службе БНФ, партыі гэтых краін аб'ядналіся, каб захаваць незалежнасць дзяржаў міжмор'я "перад пагрозай расійскага імперыялізму і рэваншысцкіх амбіцый пэўных палітычных сіл Расіі".

Удзельнікі канферэнцыі абмеркавалі сумесныя дзеянні па эканамічнаму супрацоўніцтву, экалогіі, нацыянальнай бяспецы і пытаннях нацыянальных меншасцей. Ад Беларусі ў канферэнцыі ўдзельнічалі прадстаўнікі БНФ і Аб'яднанай дэмакратычнай партыі.

*ЗАЦІСКАЕМ ПАС*

## ПАВЯЛІЧВАЕЦЦА ПЛАТА

Міністэрства эканомікі Беларусі пастанавіла ўстанавіць з 1 жніўня гэтага года новыя тарыфы на жыллёва-камунальныя паслугі, цэны на газ і тарыфы на электраэнергію для насельніцтва ў наступных памерах: кватэрная плата павялічваецца ў 5 разоў, кошт цеплавой энергіі для ацяплення і гарачага водазабеспячэння -- у 5 разоў, плата за карыстанне водаправодам -- у 4 разы, за карыстанне каналізацыяй -- у 4 разы, за электраэнергію, адпускаемую на камунальна-бытавыя патрэбы насельніцтва, -- у 4 разы, за газ прыродны для насельніцтва і жыллёва-будаўнічым кааператывам -- у 2 разы.

*МІРАТВОРЧАЯ МІСІЯ*



З міратворчай місіяй у пачатку жніўня адправілася з Мінска ў Парыж экспедыцыя пад назвай "Залатая карэта". У склад яе ўвайшлі мастакі і артысты, грамадскія дзеячы і бізнесмены рэспублікі.

-- Галоўная мэта экспедыцыі -- паказаць свету, што ёсць такая незалежная краіна -- Рэспубліка Беларусь, -- сказаў удзельнік акцыі мастак Мікола Цудзік. -- У час экспедыцыі плануем правесці фестываль "Залатая карэта", а таксама адкрыць у Парыжы салон з такой жа назвай.

Афіцыйна адкрыццё фестывалю прайшло ў адной з самых прыгожых мясцін Мінска -- Траецкім прадмесці. На фестывалі было многа цікавых гасцей. Увесь вечар прысутных радавалі сваім майстэрствам фальклорныя калектывы "Харошкі" і "Гурт".

НА ЗДЫМКУ: на адкрыцці фестывалю ў Траецкім прадмесці.

*УПЕРШЫНЮ*

## У МОДЗЕ ЛАТЫНЬ

У Гродзенскім дзяржаўным універсітэце з 1 ліпеня дзейнічае факультэт замежных моў.

Упершыню набіраюцца групы для вывучэння французскай, нямецкай і англійскай моў. Цікавае нававядзенне -- каб лепш засвоіць замежную мову, студэнты будуць вывучаць гісторыю, культуру і літаратуру адпаведнай краіны. Фундаментальнай стане і агульнагуманітарная падрыхтоўка, якая дазволіць выпускнікам факультэта не толькі выкладаць у навучальных установах, але і займацца мастацкімі перакладамі твораў замежнай літаратуры.

Упершыню ў Беларусі факультэт будзе таксама рыхтаваць спецыялістаў класічнай філалогіі. Студэнты гэтага аддзялення зоймуцца вывучэннем "мёртвых" моў: грэчаскай, латыні, а таксама антычнай літаратуры і гісторыі старажытнага свету.

*ФЕРМЕРСТВА*



Сцяпан СЫМАНЮК -- фермер у Шчучынскім раёне вядомы. Яго госцем быў Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечаслаў Грыб. "Ну, цяпер Сцёпка ўсе дзверы левай нагой будзе адчыняць", -- жартавалі сяльчане.

Што ж, дзверы адчыняць ёсць патрэба, бо асталёўваецца Сыманюк моцна, па-гаспадарску. Падняў ферму для жывёлы, потым узяўся за жылы дом. У планах Сцяпана Браніслававіча не толькі земляробства і жывёлагадоўля. Працуе на сядзібе і спецыяліст па вырабу скур і пашыву з іх вырабаў. Збіраецца Сыманюк наладзіць і цэх па перапрацоўцы мяса.

Ды вось бяда, не адчыняюцца дзверы, аб якіх марыць фермер. Па ўсім былым Саюзе даводзіцца калясіць, каб здабыць той ці іншы сельскагаспадарчы інвентар, а гэта страта часу, а значыць і сродкаў. Пакуль шукаеш -- усе крэдыты з'ядае інфляцыя. Вось і марыць фермер, каб нехта з прадпрымальнікаў арганізаваў бы фірму па забяспечванню такіх, як ён, усім неабходным, ці, напрыклад, арганізаваў бы нешта па тыпу былых МТС (машынна-трактарных станцый). Апрацавалі б табе ўчастак і паехалі да суседа. Тут і тэхніка мела б поўную загрузку, і клопату па рамонту і абслугоўванню было б менш.

*У ЛЮСТЭРКУ СТАТЫСТЫКІ*

## ЛЕПШ СЯДЗЕЦЬ ДОМА

Увядзенне мытнага кантролю, падаткаў, уласнай валюты рэспублікамі былога Саюза прывяло да скарачэння паездак іх жыхароў у суседнія дзяржавы. У параўнанні з мінулым годам аб'ём пасажыраабароту на ўсіх відах транспарту знізіўся на 11,9 працэнта.

У прыватнасці, на чыгунцы адзначана зніжэнне на 13,8 працэнта, на аўтамабільным транспарце -- на 8,4, на рачным -- на 24,8 працэнта.

*СІГНАЛ ТРЫВОГІ*

## АПАСАЮЦЦА ЧУМЫ

Паляўнічыя і прадстаўнікі санітарнай службы Гомельскай вобласці сцвярджаюць, што ў Чарнобыльскай зоне не выключана верагоднасць узнікнення чумы. Гэта можа здарыцца з-за вялікай колькасці тут звяроў, асабліва дзікоў. Адстрэл іх не вядзецца, таму што мяса непрыдатнае да ўжывання з-за вялікай забруджанасці радыенуклідамі. Для прадухілення верагоднасці ўзнікнення чумы неабходна адрэгуляваць колькасць жывёл у Чарнобыльскай зоне, стварыць брыгады паляўнічых па адстрэлу звяроў. Прычым пытанне гэтае павінна быць вырашана як мага хутчэй і ўзята пад кантроль дзяржавы.

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

САМЫМІ прэстыжнымі для абітурыентаў сёлета былі Мінскі дзяржаўны лінгвістычны універсітэт, Беларускі дзяржаўны эканамічны універсітэт і Беларускі дзяржаўны універсітэт. А сярод спецыяльнасцей -- эканамічная тэорыя, міжнароднае права і міжнародныя адносіны. Конкурс на гэтыя спецыяльнасці сёлета быў каля 4 чалавек на адно месца.

КАЛЯ 2 000 помнікаў Ульянаву-Леніну налічвалася ў былым СССР. З іх 502 (ці кожны чацвёрты) знаходзяцца сёння на тэрыторыі Беларусі. Па колькасці манументаў любімаму правадыру на душу насельніцтва рэспубліка з'яўляецца сусветным лідэрам -- адзін Ільіч на 20 тысяч жыхароў. Колькасць жа гіпсавых, бронзавых, алюмініевых і іншых бюстаў першага старшыні Саўнаркома, што знаходзяцца на руках у насельніцтва, проста не паддаецца ўліку. Ленінскі бюст сярэдніх памераў у беларускай сталіцы прадаецца як антыкварыят ад 200 да 400 тысяч "зайчыкаў" за штуку.

ЦЯПЕРАШНІ Брэст займае плошчу 64 квадратныя кіламетры. Генеральны план яго развіцця прадугледжвае, што горад пашырыцца, прынамсі, у 2 разы. Аснову яго будаўнічага пейзажу складуць шматпавярховыя дамы, якія гарманічна будуць спалучацца з індывідуальнымі дамкамі-катэджамі.

ТОЛЬКІ 18 навучэнцаў скончылі школу арганізатараў фермерскіх гаспадарак, якую арганізавала кафедра аграбізнесу Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. А паступіла ж іх 154. Астатнія не дайшлі да экзаменаў -- кінулі гэты марны занятак, бо з адным дыпломам фермерам не станеш: трэба яшчэ аднекуль і немалыя грошы ўзяць.

ЛЕЛЬЧЫЦКІЯ краязнаўцы пацвердзілі версію аб наведванні тутэйшых мясцін прапаведнікам і геніяльным мысліцелем свайго часу Кірылам Тураўскім. Гістарычныя звесткі ўзяты з выданай ў 1867 годзе кнігі "Успаміны аб старадаўняй праваслаўнай Заходняй Русі", знойдзенай у мясцовай Свята-Троіцкай праваслаўнай царкве.

НЯМА ліха без дабра. Рака Сож, прыйшлі да высновы нашы эколагі, зноў становіцца адной з самых чыстых у Еўропе. Мяркуюць, што гэта -- вынік крызісаў вытворчасці на прамысловых прадпрыемствах Гомеля. Заводы працуюць з вялікімі перабоямі -- у раку менш скідваецца прамысловых адходаў.

СВЯТА-МІКАЛАЕЎСКАЯ царква, што на тэрыторыі мемарыяльнага комплекса Брэсцкая крэпасць-герой, перададзена, нарэшце, Брэсцкай епархіі. Пабудаваная ў XIX стагоддзі, яна з прыходам бальшавікоў у 1939 годзе ў Заходнюю Беларусь была аддадзена пад салдацкі клуб. Напаўразбураны храм вымагае вялікай працы і сродкаў, каб аднавіць яго.

# У ПАЛІТЫЧНАЙ БАРАЦЬБЕ ПЕРАМОЖЦАЎ НЕ БУДЗЕ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Надышоў час вырашыць найважнейшае пытанне аб прыватнай уласнасці на зямлю. Трэба аддаць яе людзям. Многія баяцца, што, маўляў, купіць чалавек зямлю, а потым не зможа яе апрацаваць. Але на тое і рынак, каб уласнік, які не здолеў з ёю справіцца, мог зноў яе прадаць. Можа, адбудзецца гэта не раз і не два, але, паверце, знойдзецца ў рэшце рэшт гаспадар, які сапраўды ацэніць гэтую зямлю, здолее яе апрацаваць ці нешта пабудуе на ёй. Адразу ў "дзесятку" трапіць будзе цяжка. Можа здарыцца і так, што ў некага хапіла грошай, каб набыць уласнасць, ды не хапіла мазгоў, каб адразу пачаць яе эфектыўна выкарыстоўваць. Але трэба стварыць умовы, пры якіх будзе нявыгадна трымаць "мёртвую" ўласнасць; давайце ўвядзём фіксаваны падатак на перапродаж, і тады, калі адзін будынак будзе перапрадавацца нават пяць разоў, бюджэт атрымае суму большую за кошт гэтага будынка. Увесь цывілізаваны свет так жыве, і нічога, Нью-Йорк яшчэ не стаў японскім, нягледзячы на тое, што японцы купляюць там і будынкі, і зямлю.

Яшчэ адно пытанне, якое мы падымаем у сваіх прапановах, гэта перагляд крымінальнага заканадаўства. Я з упэўненасцю магу сказаць, што сёння камерцыйным структурам спаганяць грошы з даўжнікоў працей і больш надзейна з дапамогай мафіі, чым праз суды. У судзе — бясконцая цяганіна і адсутнасць гарантыі, што грошы вернуцца, а крымінальныя структуры сваю справу робяць "з гарантыяй", хаця і бяруць за паслугі 50 працэнтаў ад агульнай сумы. У выніку таго, што няма прававых норм разгляду гэтых пытанняў, траціць і дзяржава, і камерсанты, расце злачыннасць. Недасканаласць заканадаўства вядзе да таго, што мільярды рублёў плывуць на Украіну, у Прыбалтыку, у Расію, і ніякія суды не могуць вярнуць гэтыя грошы.

*— Што, на ваш погляд, перашкаджала нармальнаму вырашэнню тых пытанняў, якія вы ставіце?*

-- Некампетэнтнасць некаторых дэпутатаў, эканамічная непісьменнасць, а часам і элементарная адсутнасць здаровага сэнсу. Менавіта з-за гэтага загінула ідэя стварэння зоны свабоднага гандлю ў раёне аэрапорта "Мінск-2", якая дала б дзяржаве вялікі валютны прыбытак. "А што гэта такое -- свабодная эканамічная зона? А ці не занадта там свабоды будзе?.." -- пыталіся ў нас. Зараз складваюцца парадаксальныя сітуацыі -- на дзяржаўных прадпрыемствах стаяць пустыя цэхі, іржавее абсталяванне, не працуюць людзі, велізарныя грошы пры гэтым плацяцца за арэнду, за святло, а калі мы прапануем стварыць сумесныя прадпрыемствы, вырабляць прадукцыю і даць людзям працу, кіраўніцтва прадпрыемства не згаджаецца. Каб змяніць нешта ў нашай эканоміцы, трэба працаваць, мець сілы, жаданне, прагматычны падыход і прававую базу. А калі разглядалася прапанова адкрыць у тым жа аэрапорце "Мінск-2" магазіны бяспошліннага гандлю, як гэта зроблена ва ўсім свеце, дэпутаты задалі самае істотнае, на іх погляд, пытанне: а хто будзе дырэктарам такога магазіна? Разумееце, людзі падыходзілі да праблемы не з пункту гледжання эканамічнай мэтазгоднасці праекта і яго выгады. Іх у першую чаргу хвалявала, чый сваяк зойме пасаду. Ну добра, хай гэта будзе нават чый-небудзь сын, то вы прыміце закон, пры якім і ваш сын, і мой, і сын Пятрова зможа адкрыць такі магазін, а калі красці пачне -- хай адказвае перад законам!

*-- Гэты выпадак нагадвае анекдот, але нейкі сумны анекдот... Пакуль што наша размова ішла пра эканоміку. Але ж, напэўна, Саюз прадпрымальнікаў плануе і палітычную дзейнасць. Якой вы яе бачыце?*

-- Ведаеце, калі ў краіне нармальная эканоміка, дзяржаве значна прасцей вырашаць і палітычныя пытанні. Мы са свайго боку збіраемся актыўна ўдзельнічаць у будучых выбарах у Вярхоўны Савет. Ёсць нямала таленавітых людзей, добрых эканамістаў, якія, трапіўшы ў Вярхоўны Савет, змаглі б стварыць там прафесійную каманду, і яна цалкам парламенцкім шляхам вырашала б усе пытанні. Прычым, я думаю, што гэта павінны быць не толькі члены Саюза прадпрымальнікаў, хацелася б, каб усе нашы партыі выпучылі сваіх прадстаўнікоў, разумных людзей, для якіх галоўнай мэтай было б паляпшэнне жыцця народа. І калі б гэта атрымалася, тады і пачаліся б станоўчыя зрухі ў нашым жыцці, ды і я быў бы ўпэўнены, што і дакументы нашы, і прапановы, што мы распрацавалі, будуць разгледжаны, улічаны і ўвасоблены ў жыццё.

*-- Дарэчы, вы збіраеце інфармацыю, рыхтуеце матэрыялы, пішаце прапановы. А ці ёсць у вас упэўненасць, што ўсё гэта сапраўды дойдзе да прэзідэнта, што ён убачыць іх?*

— Пра гэта можна марыць, бо мы ж не пры асабістай сустрэчы перадаем гэтыя дакументы. Яны "ідуць" праз людзей, якія, між іншым, таксама розныя. Нам ужо даводзілася чуць ад высокапастаўленых асоб: "А я ўвогуле вашу паперку не бачыў!" Дарэчы, прэзідэнт фізічна не можа сам за ўсім прасачыць і сам усё вырашыць. Проста вакол яго павінна быць каманда маладых, прафесійна адукаваных, энергічных людзей, якія б душой хварэлі за сваю дзяржаву. Сёння -- не да амбіцый, сёння трэба ратаваць народ і краіну. А для гэтага варта ўсім аб'яднацца, бо, калі мы сёння не пакінем усе інтрыгі, заўтра не будзе каму інтрыгаваць. Час зразумець, што ў палітычнай барацьбе пераможцаў ужо не будзе, і гэта зараз варта памятаць усім.

**Гутарыла**
**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

## ДЭКЛАРАЦЫЯ АБ ДАХОДАХ

## ШТО МАЕ ПРЭЗІДЭНТ

Аляксандр Лукашэнка прадставіў дэкларацыю аб сваіх даходах для публікацыі яе ў сродках масавай інфармацыі. Як вынікае з дэкларацыі, прэзідэнт не мае ўласнасці ў выглядзе прадпрыемстваў, жылых памяшканняў і іншай нерухомай маёмасці, зямельных участкаў. З красавіка 1985 года сям'я Лукашэнкі пражывае ў пасёлку Рыжковічы Шклоўскага раёна Магілёўскай вобласці ў службовым доме, карысная плошча якога -- 55 квадратных метраў, з надворнымі пабудовамі і прысядзібным участкам у 0,25 гектара. На час работы на пасадзе прэзідэнта Рэспублікі Беларусь яму прадастаўлена службовая рэзідэнцыя ў Мінску.

Грашовы ўклад прэзідэнта ў Шклоўскім раённым аддзяленні Ашчаднага банка складае 16 тысяч 64 рублі і 21 капейку. Укладаў у іншых банках, акцый і іншых каштоўных папер прэзідэнт не мае, гэтак жа, як не мае сваёй долі ў статутных фондах суб'ектаў гаспадарання. Наяўныя сродкі прэзідэнта не перавышаюць межаў заработнай платы, якая з мая па ліпень 1994 года склала 1 602 631 рубель. Іншых крыніц даходаў, што падлягаюць падаткаабкладанню, прэзідэнт не мае.

Прадстаўляючы дэкларацыю аб сваіх даходах, Аляксандр Лукашэнка падкрэсліў, што уласнасць і даходы прэзідэнта, іншых вышэйшых службовых асоб дзяржавы будуць заўсёды даступныя для кантролю, а публікацыя гэтай дэкларацыі дае права любым грамадскім аб'яднанням, партыям, прыватным асобам праверыць дакладнасць прадстаўленых звестак.

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ

**Сёлета ў дзень пачатку веснавога распродажу натоўп людзей знёс дзверы ў некалькіх буйнейшых магазінах Гамбурга, пра што з лёгкім здзіўленнем паведаміла нямецкае тэлебачанне. Камера ўважліва ўглядалася ў твары людзей, якія нязвыкла для немцаў ішлі на штурм прылаўкаў з танным адзеннем, скупляючы буйным і дробным оптам рэчы, пра якія самі немцы гавораць, што захоўваць іх даражэй, чым аддаць дарма. Гэтых людзей і гэтыя рэчы давялося днямі пабачыць яшчэ раз -- на вядомай у горадзе барахолцы, якая знаходзіцца зараз на тэрыторыі буйнейшай кузні спартыўных кадраў і рэкордаў -- мінскім стадыёне "Дынама". Думаю, што нават у былыя часы, калі цікавасць да спорту была значна большай, чым зараз, наша спартыўная ўстанова не бачыла такой колькасці наведвальнікаў. З самага рання па навакольных вуліцах ручайкамі сцякаюцца да ўваходу на стадыён людзі, утвараючы раку, што ўліваецца ў бурлівае чалавечае мора рэчавага рынку. Перад уваходам каса з надпісам "Мінскі стадыён "Дынама", у якой прадаюцца білеты. А каб у наведвальніка не заставалася ілюзій адносна таго, куды ён трапіў, унізе надрукавана: "Ярмарка цэнтра "Дынама-спорт". Рэчавы рынак". З рэкордамі тут сёння па-ранейшаму ўсё ў парадку, бо цана, напрыклад, на боты ці касцюмы такая, што любы замежны вытворца, даведаўшыся пра яе, атрымаў бы сардэчны прыступ, а то і інфаркт, бо прадаць адзенне і абутак па такой цане ў сябе на радзіме яму і не снілася. Купляючы на "Дынама" коўдру ці басаножкі, вы аплачваеце не толькі іх вартасць, але і дарогу "чаўнака" -- туды і назад, які ў Мінск прывёз іх з таго ж Гамбурга ці Стамбула.**

**Слова, якое найбольш часта тут гучыць, -- долар. Мне не давялося знайсці ніводнай рэчы, цана якой вызначалася б у рублях. Не, разлічыцца можна і рублямі па курсу свабодна канверсаванай валюты, але на пытанне, колькі каштуе, вы пачуеце -- пяць, дваццаць ці сто долараў. Такой непавагі да ўласных грошай нават цяжка сабе ўявіць... Што тычыцца якасці рэчаў, то набываюць іх тут на свой страх і рызыку. Вельмі часта абутак, які на прылаўку меў вельмі прывабны выгляд, ужо праз некалькі дзён развальваецца на нагах. Прэтэнзіі ў такім выпадку прад'яўляць няма каму: гэтая "фірма" гарантый не дае...**







**"Дынама" лаюць, "Дынама" клянуць і патрабуюць перанесці "барахолку" ў іншае месца, далей ад цэнтра горада, з "Дынама" здзекуюцца, і... на "Дынама" ходзяць, бо набываюць там патрэбныя рэчы. Думаю, што за тыя гады, пакуль існуе рэчавы рынак на стадыёне "Дынама", большасць дарослага насельніцтва горада хаця б аднойчы пабывалі там, многія набылі неабходнае з адзення ці абутку. Таму што, па-першае, ні ў адным магазіне (дзе прыкладна той жа асартымент тавараў) няма такога выбару, а, па-другое, цэны тут ніжэйшыя, чым у камерцыйных кіёсках і крамах, бо няма гандлёвай нацэнкі, працэнтаў, якія бярэ сабе магазін. Так, тут цяжка сустрэць па-сапраўднаму добрую рэч, якая да таго ж была б даступнай па цане. І ўсё ж, "таўкучка" дае сёння многім магчымасць апрануцца згодна з іх густам і фінансавымі магчымасцямі. Можа калі-небудзь зменіцца наша жыццё, і мы зноў будзем ездзіць і хадзіць на "Дынама" дзеля спартыўных страсцей, глядзець футбольныя матчы, атлетычныя спаборніцтвы. Што ж, пачакаем, можа рынак у больш шырокім сэнсе адрэгулюе калі-небудзь і гэтую праблему. А пакуль наша грамадства апанавана гандлярскімі страсцямі.**

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**
**Фота Віктара СТАВЕРА.**

З ГІСТОРЫІ БЕЖАНСКІХ АРГАНІЗАЦЫЙ

# БЕЛАРУСЫ НА АБШАРАХ РАСІІ

Аднак разгон з'езда бальшавікамі рэхам адбіўся на Пскоўскай радзе і яе актывістах: "адных арыштавалі бальшавікі ў Пскове, іншыя ўцяклі".

Пастурова, відаць, рада акрыяла ад бальшавіцкага нападу. Далучыліся да яе чыгуначнікі-беларусы. Варта падкрэсліць, што апошнія наогул вылучаліся тады адносна высокім узроўнем беларускае нацыянальнае свядомасці, шмат у якіх мясцінах менавіта яны былі завадатарамі руху. У артыкуле І.Янучонка згадваецца, што на той час на чыгуначным участку ў раёнах Лугі, Дзвінска і Рэжыцы (сучасны горад Рэзэкнэ) беларусаў працавала шмат. "Быў час, калі ўся чыгунка ад Лугі да Дзвінску была занята аднымі беларусамі".

Пскоўская рада штораз шырыла абсяг сваёй працы. Яна занялася рэгістрацыяй уцекачоў-беларусаў у Пскове, вяла сярод іх культурна-асветніцкую работу. Рада пскоўскіх беларусаў дапамагла арганізавацца суродзічам у Рэжыцы. Паводле І.Янучонка, сябры рады зразумелі паважную праблему, а менавіта "няўменьне інтэлягенцыяй свае беларускае мовы". "Зло гэтае вельмі шырокае ў нас, і ўсюды чуецца вялікая яго шкода", -- дадаваў ад сябе аўтар допісу. Арганізацыя пскоўскіх беларусаў праз рознага кшталту курсы, лекцыі і г.п. намагалася выпраўляць згаданае зло.

Аднак выезды з Пскова, найперш вайскоўцаў, а потым і чыгуначнікаў, у рэшце рэшт прывялі да запаволення працы рады. У датаваным лістападам 1918 года допісе І.Янучонак паведамляў, што рэшта сяброў рады "чакае магчымасьці вярнуцца". Але і тут пскоўскія беларусы выявілі свой нацыянальны гарт і жыццяздольнасць. Яны, ураджэнцы Гродзеншчыны, Магілёўшчыны, Міншчыны і Смаленшчыны, пачалі рабіць захады дзеля арганізаванага супольнага выезду куды-небудзь на Беларусь, каб гэтак жа зладжана і памысна павесці працу там. Дзеля дапамогі ў гэтым намеры ў Пскоў выязджалі дзеячы цэнтральных беларускіх арганізацый з Мінска. На жаль, мы не ведаем, чым скончыліся гэтыя клопаты сяброў Пскоўскае Беларускае Рады.

І.Янучонак скончыў свой допіс наступнай высновай: "Гісторыя Пскоўскай Рады паказвае, як жыцьцёвы беларускі рух і як часам патрэбна толькі аднае іскры, каб узьняўся агонь нацыянальнага адраджэньня".

Ведама, што неўзабаве Кузьма Цярэшчанка стаўся знаным дзеячам беларускага руху, адным з лідэраў Беларускай Народнай Рэспублікі. Ягонае жыццё таямніча абарвалася ў 1922 годзе ў савецкім Мінску, куды ён толькі што вярнуўся з Вільні.

**Працяг. Пачатак у № 30—32.**

## БЕЛАРУСКА-ЎКРАІНСКІ КАМІТЭТ ПОМАЧЫ АХВЯРАМ ВАЙНЫ

**(БАРНАУЛ)**

13 студзеня 1935 года ў Мінску памёр вядомы навуковец, дырэктар Інстытута геалогіі і гідрагеалогіі Беларускай акадэміі навук акадэмік Мікалай Фёдаравіч Бліадуха. Неўзабаве, 3 сакавіка, віленская газета "Беларуская крыніца" змясціла невялічкі артыкул без подпісу, у якім невядомы аўтар згадваў М.Ф.Бліадуху як колішняга завадатара арганізацыі беларускіх уцекачоў у 1918--1920 гадах у горадзе Барнауле. Той артыкул з'яўляецца дагэтуль адзінай крыніцай інфармацыі пра гэту арганізацыю.

У 1918 годзе ў далёкім алтайскім горадзе, паводле артыкула, паўстаў Беларуска-ўкраінскі камітэт помачы ахвярам вайны, які ставіў сабе за мэту бараніць матэрыяльныя і юрыдычныя правы беларускіх і ўкраінскіх уцекачоў. Старшынёй быў абраны Мікалай Бліадуха. Сам факт з'яўлення супольнай беларуска-ўкраінскай арганізацыі на чужыне не адзінкавы ў гісторыі. Звязаныя падабенствам нацыянальна-культурных лёсаў, беларусы і ўкраінцы часта аб'ядноўваліся дзеля вырашэння сваіх тых ці іншых агульных праблем. Камітэт наладзіў сувязі з арганізацыямі ўцекачоў іншых нацый, уступіў у Міжнародны камітэт бежанцаў у Сібіры, які існаваў у Барнауле ў 1918 годзе.

Аднак частыя змены ўладаў у горадзе ў выніку грамадзянскай вайны не спрыялі пашырэнню дзейнасці камітэта. Як вынікае з артыкула, і цывільныя, і вайсковыя ўлады рознага кшталту забаранялі працу беларуска-ўкраінскай арганізацыі.

Цікава адзначыць, што ў 1918--1920 гадах у мінскім і віленскім перыядычным друку досыць часта з'яўляліся ананімныя і пад псеўданімамі допісы з Сібіры, і ў тым ліку з Алтайскага рэгіёна. Цалкам магчыма, што некаторыя з іх пісаліся сябрамі барнаульскага камітэта.

У 1920 годзе, як паведамлялася ў артыкуле, сябры былога камітэта зрабілі спробу аднавіць арганізацыю. Быў выбраны папярэдні назоў -- Беларуская Грамада. Кіраўніком грамады ізноў прызначылі М.Бліадуху, хоць гэтым разам завочна. Відаць, М.Бліадуха быў досыць аўтарытэтным чалавекам сярод беларусаў горада. Вядома, што працаваў ён тады геолагам і часта бываў у экспедыцыях, што і магло быць прычынай яго адсутнасці ў горадзе ў часе аднаўлення арганізацыі.

Згаданы артыкул дае надта сціплыя звесткі пра дзейнасць беларускіх уцекачоў у горадзе. Магчыма, што гісторыя камітэта і грамады была больш багатая на падзеі і імёны.

М.Ф.Бліадуха ў 1922 годзе ўжо працаваў у сталіцы БССР.

**Юрка ВАСІЛЕЎСКІ.**

НА З'ЕЗДЗЕ БЕЛАРУСАЎ БАЛТЫІ

# НАС АБ'ЯДНАЛІ МЕЖЫ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Невыпадкова месцам сустрэчы была выбрана Вільня. Прысутнасць на гэтай зямлі беларусаў мае глыбокія карані. Вільня -- калыска беларускай культуры. Тут фарміравалася беларуская літаратура, мова, пачалося беларускае кнігадрукаванне. З ёй звязаны імёны такіх слынных сыноў Беларусі, як Кастусь Каліноўскі, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Тодар Лебяда і шмат, шмат іншых. Сітуацыя змянілася карэнным чынам пасля прыходу да ўлады бальшавікоў.

На працягу паўвекавога панавання камуністаў у Літве і іншых краінах Балтыі адбывалася дэнацыяналізацыя як карэннага насельніцтва, так і нацыянальных меншасцяў. Сёння ўжо добра вядома, чаго каштавала гэта беларускай нацыі. Былі зачынены беларускія ўстановы, зліквідавана беларускае школьніцтва, арыштавана і выслана беларуская інтэлігенцыя. Паступова пакаленне за пакаленнем нараджаліся дзеці, якія ўжо не ведалі роднай мовы, дзедаўскіх звычаяў, цураліся сваёй нацыі. Сёння, калі ў Беларусі набірае моц адраджэнскі рух, да яго далучаюцца беларусы ўсіх краін свету і, у першую чаргу, тыя, хто жыве на этнічна беларускіх тэрыторыях, каб стварыць сусветную нацыянальную супольнасць. Менавіта таму адной з галоўных мэтаў сустрэчы было **выдзяленне беларусаў як нацыі з агульнай дэнацыяналізаванай масы рускамоўнага насельніцтва**. Неаднаразова прагучала думка, што, пакуль беларусы самі не пачнуць паважаць сябе, не будуць ведаць сваю мову, шанаваць свае звычаі і гісторыю, яны не могуць разлічваць на разуменне і дапамогу з боку мясцовых улад. Вопыт згуртаванняў, дзе добра наладжана нацыянальная справа, толькі пацвярджае гэта.

Вядома, у залежнасці ад таго, які ўзровень суполкі, будуць вынікаць і задачы, якія яна павінна вырашаць. Нельга параўнаць сталыя суполкі ў Вільні з толькі што створанымі ў іншых месцах той жа Літвы.

**Алег ДАВІДЗЮК, намеснік старшыні беларускай суполкі ў горадзе Вісагінасе (былы Снечкус):**

-- Калі пачалі стварацца межы, людзі пацягнуліся адзін да аднаго, сталі аб'ядноўвацца. Армяне пайшлі да армян, украінцы да ўкраінцаў. Хіба мы горшыя? У нашым горадзе жыве 3,5 тысячы беларусаў па паходжанню. Гэта ў асноўным людзі маладога ўзросту. Знайшліся і ў нас ініцыятыўныя хлопцы, арганізавалі суполку. У яе актыве каля дваццаці чалавек, якія імкнуцца зацікавіць і далучыць да нашай працы іншых. Пільная ўвага павінна быць скіравана на дзяцей. У горадзе пяць рускіх школ і адна літоўская. Мы стварылі пакуль што беларускую нядзельную школку. Зараз марым пераўтварыць некаторыя рускія школы ў беларуска-літоўскія. Будзе моцнае супрацоўленне. У нас насельніцтва пакуль што вельмі савецкае, якое жыве ўспамінамі аб мінулым. **Трэба выдзеліцца з гэтага рускамоўнага асяроддзя, адрадзіць лепшае, што было ў беларускай культуры, вывучаць гісторыю, выхоўваць дзяцей, каб яны любілі і шанавалі зямлю, на якой жылі і жывуць іх продкі, і тады яны стануць праваднікамі сяброўства і супрацоўніцтва паміж Літвой і Беларуссю -- вось асноўная мэта нашай суполкі.**

Праблемы адукацыі і школьніцтва, пераемнасці пакаленняў вызначылі другую тэму дыскусій на сустрэчы. І гэта невыпадкова, бо, як слушна заўважыў **намеснік старшыні ЗБС "Бацькаўшчына" прафесар Анатоль САБАЛЕЎСКІ**, "у адрозненне ад грузіна, які нараджаецца грузінам, паляка, які нараджаецца палякам, і ў якіх родная мова ўвесь час на слыху, толькі беларусы ў сваёй пераважнай большасці паступова набываючы пачуццё самасвядомасці, годнасці, беларусамі робяцца". Вельмі цікава і шмат распавядала пра станаўленне беларускай гімназіі ў Вільні яе дырэктар спадарыня Лілея Плыгаўка. Хочацца спадзявацца, што яе вопыт будзе выкарыстаны ў будучыні іншымі суполкамі Літвы, Латвіі, Эстоніі. Ведаючы складанасць умоў, у якіх працуюць настаўнікі беларускіх школ, прарэктар Мінскага педагагічнага універсітэта спадар Мікалай Плескацэвіч зрабіў шэраг прапаноў, накіраваных на ўдасканаленне кваліфікацыі настаўнікаў (10-дзённы семінар у студзені 1994 года, наладжванне святаў для дзяцей у Беларусі).

Была і яшчэ адна мэта з'езда, здаецца, найважнейшая -- узаемаадносіны і ўзаемасувязь паміж беларускімі суполкамі.

**Аляксей АНІШЧЫК (Вільня):**

-- Тое, што мы сабраліся спазнацца, абмяняцца думкамі -- добра. Але галоўнае сёння -- гэта ўмацаваць адзінства як у духоўным сэнсе, так і ў сэнсе метадаў нашай далейшай працы. Вельмі важна, каб паміж суполкамі была згода і паразуменне, накіраваныя на дасягненне мэтаў.

**Вольга ГАЛАВАШКІНА (Талін):**

-- Афіцыйна ў Таліне чатыры беларускія таварыствы -- два дзейнічаюць, а два, як кажуць, канулі ў Лету. Мы самі сабе шкодзім у сваіх справах, у сваім жыцці. **Няма адзінства -- няма сяброўскіх адносін. Мы не можам паміж сабой дамовіцца, каб стварыць хаця б адзін клуб, няма памяшкання, няма фундатараў. Мы не можам перакanаць бацькоў і адкрыць беларускія класы. Многія нават і беларусамі сябе ўжо не лічаць.** Тыя, хто гуртуецца вакол беларускага радыё, ставяцца да праблемы інакш. Мы імкнемся згуртаваць беларусаў, і мы бачым, што людзі на гэта ідуць. Звярнулі на нас увагу і эстонцы. Было нечаканым, што нам пачало дапамагаць дзяржаўнае радыё -- павялічылі час вяшчання. Трэба неяк яднацца, і такія сустрэчы -- вельмі добрая магчымасць параіцца, вырашыць нейкія агульныя праблемы.

**Лявон ЛУЦКЕВІЧ (Вільня):**

-- Шкада, што пакуль няма той кансалідацыі паміж суполкамі, якая павінна быць. **Такая раз'яднанасць характэрна не толькі для беларусаў, але гэта не цешыць. Трэба часам ахвяраваць сваімі амбіцыямі на карысць агульнай справы, на карысць Бацькаўшчыны. Пакуль што кожны думае, што менавіта ён ідзе правільным шляхам.** Трэба выпрацаваць супольную тактыку, і сённяшняя сустрэча, я перакананы, паспрыяе гэтаму.

Аб сваіх праблемах і здабытках прамаўлялі Маргарыта Астраумава, старшыня суполкі "БЭЗ", горад Кохтла-Ярве (Эстонія), Алесь Карповіч, ТБМ "Прамень", горад Рыга (Латвія), Станіслаў Валодзька, "Уздым", горад Даўгаўпілс (Латвія) і іншыя. Калі не ўлічваць агульныя эканамічныя цяжкасці, то праблемы ва ўсіх даволі розныя. У Эстоніі і Латвіі першаснымі ідуць палітычныя пытанні, звязаныя з атрыманнем грамадзянства, у Літве ў асноўным закранаді культурна-асветніцкія праблемы, захаванне беларускага этнасу, адкрыццё школ і г. д.

Ужо нават і не хочацца ўзгадваць, што мы перажываем цяжкі час -- хто не адчуў гэта на сабе? Сёння, каб захаваць сваю дзяржаўнасць, адрадзіць нацыю, гісторыю, эканоміку, патрэбна адзінства і самаадданая праца, рашучасць і ўпартасць. Хто не стукаецца ў дзверы, таму іх не адчыняць. Пётра Малафееў, загадчык Беларускага цэнтра культуры ў Салечніках, да яго адкрыцця два месяцы таму 55 разоў стукаўся ў гэтыя дзверы ў Мінску, 12 разоў у Гродне, мноства разоў звяртаўся да мясцовых улад. Двойчы на яго нападалі. Ляжаў у рэанімацыі. Разлічваў толькі на сваю кішэню ды на жончын заробак. Але сёння цэнтр мае сваё памяшканне, мэблю, штатныя адзінкі (дарэчы, за кошт літоўскай дзяржавы), выйшаў першы нумар газеты. Вось такія вынікі ўпартасці і самаахвярнай працы.

Наогул уражанні ад з'езда вельмі добрыя. Прыемна назіраць за людзьмі, захопленымі адной агульнай справай. Больш таго, на працягу двух дзён меладычна і лагодна гучалі беларускія песні, якія спявалі ўдзельнікі сустрэчы ў перапынках паміж пасяджэннямі. Гасцей пазнаёмілі з беларускімі мясцінамі Вільні, наведалі яны могілкі Росы, дзе ўскладалі кветкі да помнікаў славутым беларускім дзеячам. Была яшчэ адна падзея -- на вуліцы Віленскай, дом 14 была адкрыта мемарыяльная дошка на будынку, дзе жыў Янка Купала, калі працаваў рэдактарам "Нашай нівы" (скульптар Алесь Міронччык).

На жаль, не абышлося і без арганізацыйных хібаў, у выніку якіх у Вільню не трапілі дэлегацыі з Пецярбурга, Калінінграда і гарадоў балтыйскага ўзбярэжжа Польшчы Гданьска і Гдыні. Увогуле для мяне асабіста не зразумела, чаму не былі запрошаны больш актыўныя беларускія суполкі з іншых гарадоў Польшчы. На маю думку, беларусы Беласточчыны маглі б браць удзел у з'ездзе на тых жа правах, што і віленчукі. Вядома, станоўчае пераважае тыя хібы, што мелі месца, і добра, што такі з'езд адбыўся. На ім былі прыняты тры выніковыя дакументы: Зварот з'езда беларусаў краін Балтыі да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Дэкларацыя з'езда беларусаў Балтыі і Пастанова з'езда беларусаў Балтыі. Была магчымасць яшчэ раз пераканацца, што ў Літве, Эстоніі і Латвіі ёсць вельмі моцныя беларускія суполкі, Ёсць спадзяванне, што яны возьмуць на сябе цяжар арганізацыйнай працы і паспрыяюць кансалідацыі нашых суайчыннікаў у імя агульных інтарэсаў.

**Таіса БАНДАРЭНКА.**

121

**АДРАДЖЭННЕ САМАПАЗНАННЯ.** Пад уплывам ідэалогіі расійскіх народнікаў з іх зацікаўленасцю вясковым жыццём і падрыхтоўкай сялянскай рэвалюцыі некаторыя адукаваныя беларусы прысвячалі сябе вывучэнню гісторыі і культуры свайго народа. Нацыянальныя пачуцці бралі сваё. Хацелася дакладна ведаць, хто ж такія беларусы -- самастойны народ ці толькі рускае або польскае племя. Узнаўляўся натуральны працэс самапазнання. Ён вёўся пераважна на аматарскім узроўні. Але асобныя беларусы станавіліся прафесійнымі навукоўцамі. Ім прыходзілася пісаць на рускай мове і падстройвацца пад афіцыйныя дактрыны, але веды пра Беларусь не станавіліся ад таго менш каштоўнымі.

**НАВУКОВЫЯ ДАСЛЕДАВАННІ БЕЛАРУСКАГА КРАЮ.** У 1870 годзе выйшаў першы беларуска-рускі слоўнік Івана Насовіча, нашага старэйшага мовазнаўца і этнографа (1788--1877), які быў родам з Быхаўскага павета. Пасля заканчэння Магілёўскай духоўнай семінарыі ён працаваў настаўнікам і адначасова збіраў этнаграфічныя матэрыялы пра беларусаў (песні, казкі, прымаўкі). І толькі пасля адстаўкі ў 1843 годзе атрымаў магчымасць стала займацца навукай.

З 60-х гадоў пачаў сваю працу выдатны этнограф Павел Шэйн (1826--1900), віцебскі хрышчоны яўрэй. Ён выкладаў нямецкую мову ў віцебскай гімназіі, але зацікавіўся Беларуссю, яе людзьмі. Даследчык хутка авалодаў беларускай мовай і распачаў шырокае этнаграфічнае вывучэнне краю. Шмат дапамаглі яму вучні

122

гімназіі, карэспандэнты з усіх куткоў Беларусі, сярод якіх быў і Адам Багдановіч, бацька беларускага песняра. У 1887--1902 гадах друкавалася трохтомная праца Шэйна "Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю". Хоць аўтар і ўжывае афіцыйную тэрміналогію, размова ў працы ідзе пра беларусаў. Яго даследаванне -- каштоўны ўклад у скарбніцу беларускай культуры.

Вельмі арыгінальным этнографам быў Мікалай Нікіфароўскі (1845--1910). Яго працы характарызуюцца не сухой акадэмічнай навуковасцю, а цеплынёй і падрабязнасцю апісання побыту беларусаў, іх светапогляду і паняццяў амаль што на мастацкім узроўні. Сціплы настаўнік віцебскай гімназіі надрукаваў такія вядомыя этнаграфічныя працы, як "Нарысы Віцебскай Беларусі", "Нарысы простанароднага жыцця-быцця ў Віцебскай Беларусі". Аднойчы, у дзень нараджэння цара, ён разам з іншымі настаўнікамі горада прыйшоў у кафедральную царкву ў старым з лапікамі гарнітуры. Пра гэта стала вядома папячыцелю Віленскай навучальнай акругі. Але потым высветлілася, што Нікіфароўскі зусім не хацеў сваім адзеннем дэманстратыўна зняважыць цара. Ён проста не меў нічога лепшага, бо амаль увесь свой заробак траціў на выданне ўласных кніг.

Не менш знакаміты беларускі этнограф Еўдакім Раманаў (1855--1922) таксама выйшаў з асяроддзя народных настаўнікаў. Яго шырокавядомыя "Беларускія зборнікі" пачалі выходзіць з 1886 года. Гэта своеасаблівая энцык-

123

лапедыя побыту і культуры беларусаў перыяду царскай няволі. Пазней вядомы вучоны з Гомельшчыны прычыніўся да беларускага нацыянальнага адраджэння.

Беларускі народ можа ганарыцца сваім выдатным навукоўцам Яўхімам Карскім (1860--1931), родам з Гродзеншчыны. Ён напісаў больш за 700 навуковых прац па мовазнаўству, этнаграфіі, палеаграфіі і педагогіцы. Але сусветную вядомасць прынесла яму трохтомная навуковая кніга "Беларусы", дзе аўтар даследуе паходжанне і развіццё беларускай мовы. Першы том гэтай працы выйшаў у 1903 годзе. Вельмі важна, што Карскі пачынае сваё даследаванне з вызначэння этнаграфічных межаў Беларусі па мове беларускага народа. Знакаміты навуковец займаў пасаду прафесара Варшаўскага універсітэта, потым Пецярбургскага, быў акадэмікам Расійскай акадэміі навук. Толькі на радзіме ён не мог выкарыстаць свае здольнасці. Тут не было ні універсітэта, ні навучальных устаноў.

Працы рускіх вучоных па гісторыі Беларусі не выходзілі за рамкі афіцыйных поглядаў на наш край як на правінцыю агульнарускай дзяржавы. Асабліва аддана гэта прапагандаваў расійскі прафесар, ураджэнец Беларусі Міхаіл Каяловіч. Вялікую шкоду нацыянальнай самасвядомасці беларускай моладзі нанесла яго кніга "Чытанне па гісторыі Заходняй Расіі", якая выдавалася двойчы (1864, 1884). Мгогія беларускія студэнты праходзілі рускую гістарычную школу, пераймалі навуковую спадчыну гэтай

124

школы, але не ўсе падзялялі яе ідэалагічную накіраванасць.

На вялікім фактычным матэрыяле пісаў свае працы гісторык Аляксей Сапуноў (1852--1924), віцебскі беларус, выкладчык віцебскай гімназіі. Найбольш буйныя сярод іх -- пяцітомны зборнік дакументаў і матэрыялаў пад агульнай назвай "Витебская старина" (1883--1888), а таксама гісторыка-геаграфічнае даследаванне "Рака Заходняя Дзвіна" (1893).

З 80-х гадоў пачынаецца навукова-асветная дзейнасць выдатнага беларускага гісторыка Мітрафана Доўнар-Запольскага (1867--1934). З семнаццацігадовага ўзросту ён ужо займаўся этнаграфічнымі і гістарычнымі даследаваннямі Беларусі, а вынікі сваёй працы друкаваў у мясцовых газетах. Сувязь з родным краем не перарывалася і тады, калі малады гісторык вучыўся ў Кіеўскім універсітэце, працаваў у маскоўскім архіве. У сваіх ранніх працах Доўнар-Запольскі сцвярджаў самабытнасць беларускага народа, яго права на самастойную будучыню. Такія ідэі ўпершыню прагучалі са старонак рускамоўнай прэсы. Яны пашыралі кола барацьбітоў за адраджэнне былой славы беларусаў, што належала ім у часы Вялікага Княства Літоўскага.

**РУСКАЯ ПЕРЫЁДЫКА НА СЛУЖБЕ БЕЛАРУСКІХ ІНТАРЭСАЎ.** Патрыятычныя артыкулы Доўнар-Запольскага друкавала ў 1888 годзе адна з першых на Беларусі прыватная ліберальная газета "Мінскі лісток" (1886--1902). Адраджэнскія матэрыялы праходзілі ў друк даволі лёгка, бо мелі навуковую форму, ад якой у

**Захар ШЫБЕКА**

**ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў XIX - XX СТАГОДДЗЯХ**

**(РАЗДЗЕЛЫ З НЕНАДРУКАВАНАЙ КНІГІ)**

125

мясцовых цэнзараў мутнела ў вачах і цягнула на сон. Вакол рэдакцыі "Мінскага лістка" гуртавалася цэлая група аматараў беларускай культуры і гісторыі -- Доўнар-Запольскі, беларускі паэт Ян Неслухоўскі, аб якім будзе гаворка ніжэй, і іншыя. Свае допісы яны друкавалі не толькі ў газеце, але і ў штогоднім дадатку да яе -- "Паўночна-Заходнім календары", што выходзіў у 1888--1893 гадах. Яго складальнікам неяк удалося надрукаваць вершы Яна Неслухоўскага на беларускай мове. Пад выглаядам "Календара" фактычна з'явіўся альманах, які прысвячаўся розным бакам вывучэння Беларусі.

Беларускія навукоўцы мелі шырокую магчымасць друкаваць вынікі сваёй працы не толькі ў "Мінскім лістку", а практычна ва ўсіх мясцовых рускамоўных газетах. А іх колькасць з канца XIX стагоддзя пастаянна ўзрастала. Газетныя артыкулы беларускіх патрыётаў даходзілі да вясковых настаўнікаў, святароў... свяшчэннікаў і ўвогуле да мясцовай інтэлігенцыі, а таму былі дзейсным сродкам абуджэння нацыянальнай самасвядомасці. Беларускіх навукоўцаў ахвотна друкаваў "Віленскі веснік". Вакол "Віцебскіх ведамасцяў" утварыўся гурток тамашніх нацыяналістаў-беларусаў. Тут друкаваў свае літаратурныя нарысы з беларускага жыцця Раманаў калі пад сваім прозвішчам, а калі пад мянушкай Радзіміч. Не абмінуў беларускіх матэрыялаў і "Смаленскі веснік".

**І ШТО ПАЦВЕРДЗІЛІ НАВУКОЎЦЫ!** Узмацненне навукова-асветнай дзейнасці беларусаў сведчыла аб тым, што іх жыццёвыя сілы зноў

126

выходзілі з цемры небыцця на шырокі прастор. Крыніцай гэтага ўзнаўлення быў наш сялянскі народ. Баронячыся ад рускай навалы, ён самаізаляваўся і тым прыхаваў сваю нацыянальную самабытнасць. Яе то і выявілі навукоўцы-этнографы, мовазнаўцы, гісторыкі. Афіцыйная дактрына рускасці нашага краю не пацвярджалася. Гэта істотна падрывала пазіцыі мясцовых прыхільнікаў "заходнерусізму". Інтэлігенцкія сілы Беларусі, і ў першую чаргу самі навукоўцы, пачалі пераходзіць на нацыянальную глебу.

## 17.2. Зберажэнне роднай мовы

**ЗАМЁРЛАСЦЬ ЛІТАРАТУРНАГА СЛОВА.** 1863 год выклікаў хвалю прапагандысцкай літаратуры на беларускай мове. Паўстаўшыя палякі сабе, а іх ворагі сабе заклікалі беларускага селяніна прыняць іх бок. І толькі "Мужыцкая праўда" Кастуся Каліноўскага клікала да незалежнасці і ад польскага, і ад рускага пана. У віленскай турме перад смерцю Каліноўскі напісаў верш "Марыська чарнаброва, галубка мая". Гэта было лірычнае развітанне рэвалюцыянера і з радзімай, і з любімай дзяўчынай -- віленчанкай Марыяй Грагатовіч. З той пары беларуская літаратура замёрла з-за цэнзурнага ўціску. Мясцовая інтэлігенцыя цуралася роднай мовы. Нават некаторыя сяляне пры размове з адукаванымі людзьмі, каб не выглядаць зусім ужо цёмнымі "мужыкамі", са скуры лезлі, абы толькі ўвярнуць рускія словы.

127

**ПОСТАЦЬ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА.** І вось у гэты крытычны момант, калі ўзнікла небяспека духоўнага вымірання цэлага народа, у нас з'явіўся свой прарок-выратавальнік. Гэта Францішак Багушэвіч, першы нацыянальна свядомы беларускі паэт. Ён належаў да тых нямногіх прадстаўнікоў паўстанцкай беларускай інтэлігенцыі, якія цудам уцалелі пад царскім нажом. Нарадзіўся Багушэвіч у 1840 годзе на Ашмяншчыне ў сям'і дробнага шляхціца, вучыўся ў Вільні, потым у Пецярбургскім універсітэце. Паўстанне 1863 года вярнула яго на Бацькаўшчыну. У адной з боек куля трапіла ў нагу. Свой паратунак ранены паўстанец знайшоў у сялянскай сям'і. А потым вучыўся ў Нежынскім юрыдычным ліцэі, што на Украіне, доўга блукаў па Расіі і скончыў жыццё віленскім адвакатам у 1900 годзе.

Багушэвіч вярнуўся да мовы сваіх продкаў пад уплывам украінскага руху. Яго беларускія вершы маглі пабачыць свет толькі за мяжой Расіі, у польскіх гарадах, што знаходзіліся тады пад Аўстрыяй і Прусіяй. Першы зборнік твораў паэта пад назвай "Дудка беларуская" выйшаў у Кракаве ў 1891 годзе пад псеўданімам Мацея Бурачка, а другі зборнік "Смык беларускі" -- у Пазнані ў 1894 годзе пад мянушкай Сымона Рэўкі з-пад Барысава. У сваіх вершах Багушэвіч малюе гаротнае жыццё беларуса-селяніна, стараецца абудзіць у ім пачуццё чалавечай і нацыянальнай годнасці, заклікае да адраджэння роднай культуры і сваёй беларускай дзяржаўнасці.

128

Паэт нездарма лічыцца бацькам беларускага адраджэння.

У прадмове да "Дудкі беларускай" ён звяртаецца да свайго народа з палымянымі словамі аб захаванні бацькоўскай мовы. Багушэвіч пераконвае сваіх суайчыннікаў прыкладна так: наша гаворка лічыцца мужыцкай. Але гэта мова цэлага народа, і завецца яна беларускай. Раней на ёй гаварылі і паны. Яна -- такая ж, як і французская або нямецкая. Але беларускі народ так зняважаны, што ў масе сваёй складаецца з мужыкоў. А таму і мову яго сталі называць мужыцкай. І нарэшце паэт перасцерагае: "...Шмат было такіх народаў, што страцілі найперш мову сваю, як той чалавек перад сканаішем, а потым і зусім замерлі. Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмерлі!"

**БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНЯРЫ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XIX СТАГОДДЗЯ.** Неабходнасць захавання роднай мовы добра разумеў і другі таленавіты паэт тагачаснай Беларусі Ян Неслухоўскі, які пісаў пад псеўданімам Янка Лучына (1851--1898). Ён быў родам з Мінска, меў прафесію інжынера. У 1891 годзе за мяжой была выдадзена яго невялічкая кніжачка вершаў пад назвай "Вязанка". У 1903 годзе яе ўдалося перавыдаць пад выглядам балгарскай паэзіі ў Пецярбургу намаганнямі студэнтаў з Беларусі Вацлава Іваноўскага, Івана Луцкевіча ды яго брата Антона, якія пазней сталі вядомымі дзеячамі нашага нацыянальнага адраджэння. Як і Францішак Багушэвіч, Янка Лучына быў паэтам сялянскага жыцця і беларускіх краявідаў.

# МЕЛЕЖ

Прайшло даволі часу, і ў глыбіні шырокага светлага калідора зноў расчыніліся бакавыя дзверы, куды заходзіла сястра, і на парозе паказаўся Іван Паўлавіч. Ён быў у знаёмым усім нам шэрым пінжаку, такі некурортны, такі няпляжны...

Мы ўсе паспешліва пайшлі яму насустрач. І ён ішоў насустрач нам і прыязна ўсміхаўся.

-- Прашу прабачэння, што прымусіў вас усіх мяне чакаць...

Сёння быў цяжкі дзень. Была цяжкая працэдура.

У яго і на адпачынку, і ў санаторыі, былі і "працэдуры", і "цяжкія" дні"...

Нам трэба было прасіць прабачэння: гэта мы, можна сказаць, паднялі яго з пасцелі, калі яму так быў патрэбны адпачынак.

-- Не, не! Лепшых лекаў, чым вы мне прывезлі, мне не прыдумаюць ніякія дактары! -- ён сапраўды быў непадробна рады, што вось мы, такім гуртам, захацелі пабачыцца з ім, прыехалі і таксама бясконца радыя гэтай сустрэчы.

-- Вунь вы ўсе якія малайцы... -- вітаючыся з кожным з нас за руку, здавалася, пасвятлеў Іван Паўлавіч. -- Хадзем, пабачыце мае жытло.

Мікола Аўрамчык, па праву блізкага сяброўства, спытаў у яго, ці працуе ён тут, ці піша.

-- Пішу раман. У прадбанніку... -- усмешка яшчэ больш адбівала хваравітасць яго твару.

Ён жыў тады ўжо ў "люксе".

Лаўрэат Ленінскай прэміі. Дэпутат Вярхоўнага Савета. Народны пісьменнік... У яго было ўжо ўсё: поспех, агульнае прызнанне, забяспечанае становішча, слава... Усё было! Не было толькі здароўя.

"Жытло" сапраўды было люксавае.

Гасцінную абстаўляў гарнітур мяккай зручнай мэблі. На ўсю падлогу дыван. Тэлевізар. І, здаецца, нават крышталь у серванце... Запрашаючы нас садзіцца, ён гэтак жа з усмешкай, як і аб "прадбанніку", паскардзіўся:

-- А пісьмовага стала няма...

Была ў тым шыкоўным "люксе" яшчэ гэтакая ж шыкоўная спальня, а пісьмовага стала не было. Ён паведў, паказаў нам, дзе ён "піша раман". Сапраўды ў прадбанніку. У цесным маленькім пакойчыку (без вакна) перад ванным пакоем стаяў невялічкі столік. Нават не пісьмовы, а занесены сюды, у гэты "люкс", з такога нязвычайнага выпадку, можа, з каморкі кастэлянкі ці сястры-гаспадыні...

На століку гарэла настольная лямпа і ляжаў раскрыты рукапіс. І яшчэ на гэтым століку -- кінулася ў вочы -- пластаўся на падносе парэзаны на лусты кавун!

Лідзія Якаўлеўна паставіла на стол вазу з яблыкамі і запрасіла нас частавацца. А Іван Паўлавіч, нібыта апраўдваючыся, сказаў:

-- Прабачце, што няма віна, -- і са шкадаваннем дадаў: -- Я ўжо так даўно не п'ю віна...

Мы з Лідай Арабей узялі па яблыку. Яблыкі былі духмяныя, сакаўныя, смачныя.

Мне захацелася яшчэ адно... Тут і хлопцы працягнулі рукі, і нейк непрыкметна гаворка выправілася, ажывілася, і ўсім нам неўзабаве адчулася проста і лёгка ў тых гасцях.

Цяжка дакладна зараз аднавіць у памяці, пра што ішла гаворка. Вядома ж, перш за ўсё і пра здароўе Івана Паўлавіча, і пра яго раман (усе яго і сябры, і чытачы даўно ўжо чакалі працягу "Палескай хронікі"). І ў друку, і ў прыватных гутарках ён не таіўся, што піша працяг -- трэці раман. Прызнаваўся, што пішацца цяжка, пакутліва: і прычына таму -- адказнасць перад той гістарычнай і мастацкай праўдай, якую ён мусіць і павінен сказаць у гэтым новым рамане... І здароўе, хвароба, бальніцы...

Гаварылі пра літаратуру ўвогуле.

У гутарцы з Мележам заўсёды здзіўляла, адкуль пры такой творчай, службовай і грамадскай занятасці, адкуль бралася ў яго сіла і час сачыць за літаратурным працэсам не толькі свае рэспублікі, не толькі краіны, а дасканальна арыентавацца і ведаць, што адбываецца ў літаратуры сусветнай.

...Потым яны з Лідзіяй Якаўлеўнай павялі нас паказаць будынак, у якім яны жылі. Гэта быў корпус санаторыя з найсучаснейшым абсталяваннем, з беларускага гурту, была адна і адчувалася ў тым узбуджаным, чужым Вавілоне вельмі адзінока. Іван Паўлавіч таксама быў адзін. Ад двухгадзіннага сядзення і вымушанага слухання звычнае гаварлывы ён выглядаў стомленым і хворым. На ім быў летні светлашэрага колеру гарнітур, і гэты колер яшчэ больш падкрэсліваў хваравітасць яго твару, пацягнутага нядобрай жаўцізной, з глыбокімі цёмнымі правалами пад вачыма.

-- Чаго я ехаў? Я так кепска сябе адчуваю... А тут сядзі, слухай... -- паскардзіўся ён.

Як было яго разважыць?.. І я, каб неяк адвесці яго настрой і у маім сэрцы, і я, хвалюючыся сама, гаварыла пра гэта Івану Паўлавічу. Я бачыла, што яму гэта патрэбна было, як бывае патрэбна чалавеку лякарства, але хоць і не паможа, а ўсё ж прыглушыць боль, супакоіць на нейкі час... І ён сам тады сказаў мне:

-- Гаварыце, калі ласка... Зараз мне гэта вельмі неабходна!

Я не схільная нічога перабольшваць. Мележ і чуў і чытаў пра сябе і ад сваіх блізкіх сяброў і ад сваіх крытыкаў дастаткова і прыхільнага, і грунтоўнага, і весчарпальнага... У той жа момант, у тым маскоўскім пісьменніцкім віры, дзе кіпела столькі і маладое і здаровае энергіі (відаць, з прычыны сваё



шыкоўнымі холамі, з салярыем, з басейнам.

-- Тутэйшыя вастрасловы празвалі яго дваранскім гняздом, -- відаць, гэты жарт падабаўся і самому Мележу.

Гнявіць Бога грэх было: "гняздо" было зручнае... Як бы толькі адчувалася ў гэтым "гняздзе" мілая яго сэрцу Ганна, каб выпадкам трапіла сюды. Ці яе бацька Чарнушка. Або якая-небудзь куранёўская сарока...

Пад гэтым дахам, у яго "прадбанніку", віталі толькі іх душы... Мы абышлі ўсе холы, ўсе залы, паглядзелі салярый, басейн. Потым мы палюбаваліся яшчэ з лоджыі на мора, якое ляжала пад гарой -- нібыта пя самых нашых ног... Пагулялі па тэрыторыі санаторыя. Аднак ужо і час быў збірацца ехаць назад у Ялту... Колькі мы не адгаворвалі, Іван Паўлавіч усё роўна пайшоў з Лідзіяй Якаўлеўнай правесці нас на верхнюю дарогу. І чакаў, пакуль мужчыны не падхапілі нейкае выпадковае таксі.

Ён усіх нас пацалаваў на развітанне і стаяў ля машыны, глядзеў, як мы, пяцёра, не звяртаючы ўвагі на пратэст шафёра, пакаваліся ў машыну.

Ён так і застаўся з таго вечара ў маёй памяці з узнятай рукой на ўзбочыне Севастопальскай дарогі...

* * *

...Апошні раз мы бачыліся і гаварылі з Іванам Паўлавічам за паўтара месяца да яго смерці. На 6-м з'ездзе пісьменнікаў у Маскве. У чэрвені 1976 года.

У час перапынку паміж пасяджэннямі я адбілася ад свайго думкі ад яго стану, я -- не ведаю, як яно ўжо так атрымалася, -- загаварыла пра яго "Завеі, снежань". Мне хацелася шчыра падзякаваць яму за тое бясконцае ўзрушэнне і захопленасць, якія я адчувала тады, калі чытала іх.

-- Вы паспелі прачытаць ужо апошні часопіс? -- як заўсёды, калі гаворка ішла пра тое, што ён пісаў, праясней яго твар.

Мне здаецца -- наколькі я ведала Мележа, -- што цікавасць да яго кніг, да яго герояў любога чалавека, любога пісьменніка, таварыша была найвялікшым шчасцем яго жыцця. Чалавек даўно і цяжка хворы (хворы так даўно, што навят і самыя блізкія і тыя, хто яго любіў і даражыў ім і спачуваў яму -- навят і тыя прывыклі ўжо да гэтага, што ён заўсёды хворы: жыў і пісаў жа... І як пісаў!), а гэта значыла і пазбаўлены тых звычайных штодзённых радасцей, якія дару жыццё здароваму чалавеку, ён ведаў іншую найвышэйшую радасць і шчасце -- шчасце магутнага творчага здароўя і творчай перамогі. І таму, так важна было яму ведаць, што і той, хто чытаў яго творы, адчуваў тое ж самае, гэтаксама быў шчаслівы і радасны ад яго кніг.

Вось чаму ён так любіў -- здаецца мне -- гаварыць пра сваіх герояў. Яны былі яго дзецьмі. Яны нараджаліся ў яго здароўымі. І ён радаваўся і ганарыўся імі!

...Я прачытала апошнюю частку яго рамана перад самым ад'ездам у Маскву. Яго героі, іх адчуванні, іх лёс, так нялёгкі і складаны, былі яшчэ са мною, хваробы ён трымаўся найбольш адзін), яму патрэбна была ўвага, цікавасць не толькі да нейкага там касмічнага літаратурнага працэсу, а і да яго самога, асабіста. Яму гэта заўсёды было патрэбна.

На папярэднім з'ездзе, калі яшчэ толькі на ўвесь свой магутны рост узняліся ў беларускай літаратуры яго "Людзі на балоце", ён быў імянніннікам. У дакладзе жа на гэтым з'ездзе яго імя ўзначальвала беларускую прозу, вядома ж, вельмі пачэсна і вельмі заслужана. У той час, калі называліся і паўтараліся не аднойчы ўжо імёны новыя і маладыя...

Пасля званка мы разам з Іванам Паўлавічам накіраваліся ў залу пасяджэнняў. Мы хацелі і сесці разам: ён сказаў, што каля яго ёсць якраз незанятае месца. Але на тым месцы ўжо сядзелі, і я, шкадуючы, вярнулася на сваё ранейшае.

Недзе з сярэдзіны пасяджэння Мележ падняўся, і як заўсёды ён хадзіў прыкметна схіліўшы галаву да плечука, няспешна выйшаў з залы. Хворы, стомлены чалавек, з нядобрай жаўцізной на твары, з вачыма, глыбока запалымі ў вачніцах.

Гэта была наша апошняя стрэча.

* * *

...Адыходзіць, зыходзіць час. Сціхае боль успамінаў. І толькі як бачыцца здалёку-здалёку, скрозь бязважкі туман, чуецца самне незабыўны ўсмешлівы голас:

-- Пачакай, затрымайся!..

**Алена ВАСІЛЕВІЧ.**

Заканчэнне. Пачатак у №32.

## АЛЕСЬ АСІПЕНКА

**Памёр вядомы беларускі пісьменнік Алесь Асіпенка. У некралогу, падпісаным афіцыйнымі асобамі і калегамі-пісьменнікамі, гаворыцца: "Беларуская літаратура панесла незаменную страту. 6 жніўня не стала аднаго з яе шчырых руплівцаў -- пасля цяжкай і працяглай хваробы памёр Алесь Асіпенка, усяго месяц не дажыўшы да свайго 75-годдзя. Мужны чалавек, якім быў Алесь Асіпенка, да апошняга ўдару сэрца нёс у сабе малады аптымізм, а вышыня гадоў надзяліла яго разважлівай мудрасцю.**

**Алесь Харытонавіч Асіпенка нарадзіўся 7 верасня 1919 года ў вёсцы Пушкары Віцебскага раёна. Вучыўся ў педагагічным інстытуце, настаўнічаў. З 1942 года -- партызан, памочнік камісара па камсамолу ў партызанскім атрадзе на радзіме. Восенню 1943 года ў толькі што вызваленым ад акупантаў Гарацкім раёне распачаў камсамольскую работу. З гэтага часу на доўгія гады яго жыццё непарыўна звязана з моладдзю. Няўрымслівы і апантаны, ён заражаў энергіяй пошуку і росту людзей вакол сябе. На ўсіх прыступках журналісцкай лесвіцы; ад карэспандэнта да рэдактара -- прайшоў ён і сам у рэдакцыі газеты "Чырвоная змена"; ад загадчыка аддзела да галоўнага рэдактара -- у часопісе "Маладосць". Затым працаваў галоўным рэдактарам кінастудыі "Беларусьфільм". З 1976 па 1980 год з'яўляўся галоўным рэдактарам штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва".**

**Як адзнакі яго няўрымслівасці і адданасці Радзіме -- ордэны Айчыннай вайны першай і другой ступені, Працоўнага Чырвонага Сцяга, "Знак Пашаны", многія медалі. Яму прысвоена званне "Заслужаны работнік культуры БССР".**

**Аднак галоўная яго праца -- гэта літаратурная дзейнасць. Не адно пакаленне беларускіх чытачоў спазнавала свет і дабрыню чалавечых адносін па творах Алеся Асіпенкі. Ад першага апавядання ў 1945 годзе да кніг "Лёд растае", "Подых кветак і працы", "Парогі", "Абжыты кут", "Жыта", "Канец бабінага лета", раманаў "Вогненны азімут", "Непрыкаяны маладзік" рос, дужэў і сталеў яго талент, станавіўся больш упэўненай рука майстра. Сведчанне гэтага -- выбраныя творы ў 2-х і 3-х тамах. Прызнаннем і ацэнкай важкасці літаратурнай дзейнасці сталі прэміі Ленінскага камсамола Беларусі, імя І. Мележа. Рознабаковасць таленту Алеся Асіпенкі выявілася і ў стварэнні сцэнарыяў мастацкіх фільмаў "Пяцёра адважных", "Канец бабінага лета", "Трывогі першых птушак" і іншых.**

**Алесь Асіпенка з таго арлінага пакалення людзей, на долю якога выпала ваеннае ліхалецце, нялёгкае аднаўленне з руінаў, вялікія і малыя будоўлі на ўсіх абшарах былога СССР. Апантаныя рамантыкі, багатыя бессярэбранікі, яны шукалі працу, а не яна іх. Пакуль не выпала з пальцаў ручка, пісьменнік працаваў. Ці не таму такія ўражлівыя яго набыткі апошніх гадоў. Напісана некалькі кніг, і сярод іх "Святыя грэшнікі", "Клетка для берасцянкі", раман "Лабірынт страху", у часопісе "Маладосць" (N 9) друкуецца аповесць "Выканаўца".**

**У кнізе "Вечнасць Млечнага Шляху", што выходзіць у выдавецтве "Мастацкая літаратура", Алесь Асіпенка расказвае пра свае сустрэчы з Кузьмой Чорным, Міхасём Лыньковым, Аркадзем Куляшовым, Іванам Мележам, Уладзімірам Караткевічам, з іншымі знакамітымі дзеячамі літаратуры, культуры і мастацтва. Надыдзе час, і сябры раскажуць пра жыццё самога Алеся Асіпенкі, самабытнага пісьменніка, сумленнага чалавека і працаўніка, якім ён застанецца ў нашай памяці".**



**У гэтым годзе споўніцца 70 гадоў з часу закладкі славутага Пакроўскага сабора ў Баранавічах. Пабудаваны ён па праекту вядомага архітэктара А. Абалонскага.**

**Сабор з'яўляецца ўладальнікам сямі старадаўніх мазаічных ікон, што маюць вялікую культурную і гістарычную каштоўнасць. Яны былі выраблены ў канцы XIX стагоддзя ў Пецярбургскіх майстэрнях Фралова па эскізах вядомых рускіх мастакоў Васняцова і Кошалева. Прызначаліся для сабора Аляксандра Неўскага ў Варшаве. У 1925 годзе сабор у Варшаве знесены, а мазаікі былі перададзены ў Баранавічы.**

**Цяпер Пакроўскі сабор наведваюць не толькі вернікі, але і тысячы турыстаў і знаўцаў мастацтва, каб азнаёміцца з яго рэліквіямі.**

**НА ЗДЫМКАХ: Пакроўскі сабор у Баранавічах; настаяцель сабора Аляксандр ДЗЯЧКОЎСКІ. Ён народны дэпутат Рэспублікі Беларусь. Вялікую ўвагу ўдзяляе не толькі сваім прыхаджанам, але і клапоціцца аб захаванні старадаўніх рэліквій сабора; мазаічнае пано, выраблене па эскізах Васняцова.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**





АЖЫВАЕ МІНУЛАЕ

# ЁН ДАРЫЎ СЯБРОЎСТВА...

Упершыню я ўбачыў яго ў годзе прыкладна шасцідзесятым. Я толькі што закончыў маскоўскую аспірантуру і вярнуўся на работу ў Вільнюс, цудоўную старажытную Вільню. Шмат займаўся паўстаннем 1863 года і ўжо тады (нават крыху раней — з 1959 года) пачаў друкавацца ў беларускім друку, пераходзячы паступова да засваення больш шырокіх пластоў беларускай культуры. І вось аднойчы я пачуў, што ў архіў (гістарычны архіў тады яшчэ не выдзеліўся ў асобную ўстанову і размяшчаўся разам з астатнім Цэнтральным архівам Літвы на вуліцы Міндаўга) прыехаў пісьменнік Караткевіч, працуе над матэрыяламі 63-га года, над следчай справай Каліноўскага. Я бачыў яго здалёку, мельком. Быў ён тады хударлявы, таму падаўся больш высокім, як потым. Надта сур'ёзны, засяроджаны і нейкі прасветлены. Мне падалося нават — "не от мира сего". Тады мы з ім не пазнаёміліся, хоць імя яго я з большага ведаў і нейкую цікавасць да яго меў.

Пазнаёміліся і зблізіліся мы праз пару гадоў у тым жа Вільнюсе праз Адама Мальдзіса. Яны прыехалі разам і ўладкаваліся ў высокіх і гулкіх пакоях для гасцей пры Саюзе пісьменнікаў на вуліцы Рашытаю. Мы звалі потым гэты прыстанак, які не раз выручаў прыезджых беларусаў, "літаратурным падвор'ем".

Помню той не надта сярдзітую прыбалтыйскую зіму і яго — Валодзю Караткевіча.

Быў ён тады ў самай лепшай форме і здаваўся проста нейкім цудам. Маладосць, шчырасць, шчодрасць, дружбацкасць, эрудыцыя, тактоўнасць. Ужо не кажу пра нейкую асаблівую беларускую мяккасць. І пры ўсім тым паэт, аўтар цудоўных вершаў, якія ён ахвотна чытаў у кампаніі. Манера яго чытання падкупляла. У манеры гэтай не было ніякіх знешніх эфектаў. Ён не шаманстваваў, як некаторыя іншыя паэты, а чытаў тактоўна, нягучна і ўсё ж як найлепей даносіў свой твор да слухача. Яго вершы сваёй інтэлігентнасцю, высокай культурай прыцягвалі ўвагу нават небеларусаў. Першых яго зборнікаў у мяне няма — скруціў нехта ў Вільнюсе. Тым больш яго паэзія выйгравала ў аўтарскім выкананні. Паўтараю — ён захапляў і прыцягваў. Неяк ён сказаў:

— Я, калі захачу з кім пасябраваць, дык абавязкова пасябрую.

Гэта была праўда. Супрацўляцца яму, нават калі б такое жаданне ўзнікла, было немагчыма. Пасябравалі і мы. Помню, як праводзілі мы з Мальдзісам яго ў Мінск (Мальдзіс яшчэ аставаўся). Ён стаяў у дзвярах вагона ў сваім блакітнаватым паліто з шэрым барашкавым каўняром, махаў нам на развітанне і некалькі разоў высокаваў на перон цалаваца.

Помню, як прывёў яго да сваіх сяброў. Пазванілі. Нам адчынілі. На пляцоўку з брэхам выскачыла сабачанё гаспадароў — па-мойму, нешта беспароднае, ці не самая звычайная дварняга, якая мела, зрэшты, статус пакаёвай сабачкі. Момант — і псіна прыціхла ўжо ў абдымках Караткевіча, і так разам з сабакам ён пераступіў праз парог. Было ў гэтым нешта ясенінскае: "Поцелую, прижмусь к тебе телом и, как друга, введу тебя в дом..." Потым ішоў непараўнальны караткевічаўскі рытуал цалавання дамскіх ручак. Рабіць гэта так натуральна, столькі ўкладваць сюды шчырасці і нязмушанасці ўмеў толькі Караткевіч. Ён умомант пакарыў маіх сяброў. Поспех быў поўны.

У асобе Караткевіча людзі нібы занава адкрывалі для сябе Беларусь ва ўсім бляску цяплыні, душэўнасці, таленту і інтэлігентнасці. Часам узнікала гаворка пра Вільнюс і Мінск. Інтэлігентнаму вільнюсцу, захопленаму старажытнасцю і арыгінальнасцю свайго горада, Мінск мог падацца занадта маладым, невыразным, як бы без свайго твару. Тое, што па пашпарту Мінск на 250 год старэйшы за Вільнюс, было слабым аргументам. Караткевіч, як ніхто іншы, адчуваў непаўторнасць Вільні, не гаварачы ўжо пра ўсё яе значэнне для Беларусі, але не здраджваў і Мінску:

— Вось пачакайце, пройдуць гады, абрасце наш Мінск мшамі ды абвешаецца мемарыяльнымі дошкамі — тады пагледзім.

Пабывалі мы (не помню, ці ў гэты прыезд Караткевіча) і на Антокалі, у майстэрні беларускага мастака, заслужанага дзеяча мастацтваў Літвы Пятры Сергіевіча. Пётра Аляксандравіч — чалавек надзвычай мяккі, далікатны, інтэлігентны — ахвотна паказваў нам свае палотны, старыя і новыя (ён працаваў тады якраз над кампазіцыяй з жыцця Паўлюка Багрыма), а сам усё паглядаў на вельмі цікавы для мастака твар Караткевіча: вялікія лупатыя вочы розніліся — адно шэрае, другое піўнога колеру.

Былі ў гэтым жа старым доме і ў Сергіевічава суседа Янкі Шутовіча. Дзядзька Янка — колішні выдавец "Калосся", які друкаваў яшчэ Максіма Танка, добра ведаў Машару, Таўлая — шумна расказваў пра Вільню 20—30-х гадоў. Зрэдку ўстаўляла слоўка маўклівая, засяроджаная яго жонка — літоўская пісьменніца Она Міцютэ. І зноў душой кампаніі быў Караткевіч, зноў чуўся нягучны падчас чытання яго голас, адбываўся цуд яднання людзей, цуд паэзіі.

Мабыць, іншым разам, але таксама зімой (добра помню, як мы з жартамі пераваліпі праз нейкую заснежаную грэблю на ўскраіне горада) Арсень Ліс (здаецца) завёў нас на Панары, у адзінокую, сярод лесу, сядзібу старэйшай беларускай пісьменніцы Зоські Верас. Людвіка Антонаўна некалі ведала самога Максіма Багдановіча і цяпер з цікавасцю прыглядалася да новага таленавітага беларускага паэта. І зноў вершы, дасціпнасць, тактоўнасць, вытанчаная галантнасць. Нас частавалі там нейкім трункам са шляхетных мініяцюрных чарачак. Маладыя мы былі і, калі прызнацца, здаваліся нам гэтыя чарачкі занадта малымі.

У архіве я паказваў Валодзю некаторыя дакументы паўстання 1863 года, у прыватнасці, ваенна-судовую справу Тамаша Грыневіча, расстралянага ў Рагачове за ўдзел у паўстанні. Ён быў нават нейкім сваяком Караткевіча, і той чуў расказы пра яго яшчэ ў дзяцінстве. І цяпер яму надзвычай цікава было ўбачыць аўтэнтычныя дакументы следства, спавітыя шнурам аўдытарыята.

**Генадзь КІСЯЛЁЎ.**

**(Працяг будзе).**

*СПАДЧЫНА*

# БЫЦЦАМ МАТЧЫНА ПЕСНЯ

*У покуці павесіць, на абраз у хату,*
*альбо перакінуць цераз плечы свату*
*ручніка такога не ўстыдно дзяўчыне...*

**Ларыса ГЕНІЮШ.**

Памятаю, як адна ткачыха расказвала: "У Панямонні кросны ткалі па-ўсялякаму — "пасякамі", "дымкай", "у матушкі", "пераборныя", "елачкай", "дзыгуном". А ручнікі былі шэрыя, бялюткія з вышываным узорам ды карункамі, былі рознакаляровыя, але мне больш за ўсё падабаюцца кужэльныя ўзорыстыя, што ткаліся суровым ільном па адбеленай аснове. Гэтыя ручнікі такія прыгожыя ды мілыя сэрцу, быццам матчына песня. Люба глядзець на такі лянок". Мая субяседніца не памылілася, шэра-белыя ўзорныя ручнікі — сапраўды нейкае рукатворнае дзіва.

Бадай, няма такога віду тэхнікі ткацтва на драўляных кроснах, уласцівай для Беларусі, якой бы ні ткалі ткачыхі Панёманскага краю. Рукатворныя тканіны былі як простыя па спосабу выканання, так і вельмі складаныя, да якіх адносяць шматрамізныя ("у многа нічальніц"), пераборныя, ажурныя, закладныя, знакамітыя падвойныя двухасноўныя дываны, а таксама браныя тканіны, што маюць назву ў суседняй Польшчы "сейпакі". Для кожнага рэгіёна ўласцівы свае ўзоры і свае спосабы ткання, бо, для прыкладу, звычайнае палатно з кудзелі ў адной вёсцы ткуць у дзве нічальніцы, а ў другой — у чатыры. Калі б нам давялося адным словам сказаць пра самыя характэрныя рысы ткацтва Лідчыны, то можна вызначыць, што яно "белае", а пра тканіны Астравецкага раёна — "шэрыя". Вось менавіта пра шэрыя льняныя ўзоры хочацца крыху ўспомніць, бо, як тая жанчына казала, глядзець на іх люба.

Што ж перш-наперш уласціва ручнікам Астравеччыны і чаму менавіта гэты від даматканых тканін распаўсюджаны па ўсёй тэрыторыі Гродзеншчыны, а таксама рэспубліцы? Перш за ўсё хочацца нагадаць, што ў Беларусі чалавек сустракаецца з ручнікамі на працягу ўсяго жыцця — з нараджэння і да апошніх дзён. У даўнія часы, калі нараджалася дзіця, яго прымалі на ручнік з тонкай кудзелі, альбо на танюткую палатняную тканіну. Калыску падвешвалі да бэлькі на вузкім ручніку ці тканым пояску. Дзяўчынкі з маленства ўмелі прасці, ткаць кросны, рыхтавалі сабе вясельны пасаг, у якім галоўнае месца адводзілася ручнікам. Беручы шлюб, маладыя, як правіла, сталі на ўзорным ручніку.

Ручнікамі ўпрыгожвалі покуць, рамкі з фотаздымкамі, вешалі на сцены падчас вяселля ці іншых сямейных урачыстасцей альбо рэлігійных свят. Лаўкі засцілалі, каб зручней было сядзець гасцям ды каб прыгожа было.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

